# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

7.03.13-13.03.13 г.



**ЯК ПАВІНШАВАЦЬ**




З 8 САКАВІКА ШЫКОЎНА

СТАР. 4–5

**З ПАДАТКАВІКАМІ ТРЭБА**




БЫЦЬ ПІЛЬНЫМ!

СТАР. 6-7


# ЦІ З'ЯВІЦЦА Ў МІНСКУ ТУПІК ІМЯ ЧАВЕСА

Абвяшчэнне ў Беларусі жалобы з нагоды смерці прэзідэнта Венесуэлы — чарговая бязглуздзіца.



*Такім бачылі Чавеса мільёны*

## ГІСТАРЫЧНЫ АНЕКДОТ

Уга Чавес збіраўся кіраваць краінай да 2031 года. Аднак памёр 5 сакавіка 2013-га.

Гэтая падзея сенсацыяй не стала. Пра хваробу Чавеса весь свет ведаў ужо даўно. Са снежня мінулага года прэзідэнт Венесуэлы не паказваўся на публіцы. Таму было зразумела, што неўзабаве ён сканае.

Уга Чавес быў адным з найбліжэйшых палітычных сяброў Аляксандра Лукашэнкі. Сышліся яны на глебе антыамерыканізму. Потым распачалі сумесны бізнес. Гістарычным анекдотам застануцца пастаўкі нафты з Венесуэлы ў Беларусь танкерамі цераз палову свету: сыравіна атрымлівалася надзвычай дарагой. Страты, якія ў выніку панесла наша краіна, адыгралі ролю аднаго з чыннікаў рэкорднай дэвальвацыі 2011 года.

> "Калі памёр Васіль Быкаў, жалоба наогул не абвяшчалася. Калі здарыўся тэракт у мінскім метро, яна доўжылася адзін дзень. А цяпер — ажно тры!"

Дарэчы, венесуэльская валюта — балівар — абвальвалася 5 разоў за апошнія 9 год.

Таксама Чавес з Лукашэнкам будавалі аграгарадкі ў Венесуэле, ладзілі сумесныя прадпрыемствы па выпуску трактароў і займаліся зусім ужо таямнічымі аперацыямі са зброяй. Хадзілі чуткі, што кіраўнік Беларусі на ўсякі выпадак рыхтуе сабе ў гэтай лацінаамерыканскай краіне "запасны аэрадром".

Таму смерць Чавеса аказалася моцным ударам для Лукашэнкі. Ён нават распаўсюдзіў зварот да грамадзян Беларусі і прадстаўнікоў сусветнай супольнасці:

"Мы, не сдерживая слез, скорбим вместе с венесуэльским народом, оплакивая безвременную смерть Уго Чавеса… Под руководством Уго Чавеса, наследника и продолжателя священного дела Симона Боливара, Венесуэла сбросила ненавистное ярмо отсталости и нищеты, освободилась от политического и экономического гнёта иноземных держав. Президент Чавес сильной, твёрдой рукой уверенно вёл родную страну к свободе и счастью. Он был и, я уверен, навсегда останется для миллионов людей истинным отцом венесуэльской нации".

Ствараецца такое ўражанне, што Лукашэнка, гаворачы пра Чавеса, падсвядома мае на ўвазе і сябе: "сильнойрукой вёл страну к счастью", "останется истинным отцом нации"…

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

# РАМАНА ВАЙНІЦКАГА, ЗАБІТАГА Ў ВІЛЬНІ, КАТАВАЛІ

Старшыня Згуртавання беларускіх грамадскіх суполак Літвы і клуба «Сябрына» Раман Вайніцкі знойдзены забітым сёння раніцай.

Раман Вайніцкі забіты ў падвале шматпавярховага дома, у якім ён жыў. Аб забойстве паліцыі паведаміла жонка забітага. Яна знайшла мужа, спусціўшыся раніцай у падвал.

Па папярэдніх дадзеных, пацярпелы быў звязаны, у яго быў заклеены рот. На целе знойдзены сляды катавання.

Паліцыя заявіла, што забойства не падобна на бытавое. На дадзены момант вядзецца расследванне.

Раман Вайніцкі нарадзіўся ў 1961 годзе ў Вішневе на Валожыншчыне. Апошнім часам працаваў у віленскай беларускай школе імя Францыска Скарыны намеснікам дырэктара па гаспадарчай частцы. Акрамя таго, ён разам з Валянцінам Стэхам прадстаўляў беларусаў у Радзе нацыянальных мяншыняў пры Міністэрстве Культуры Літоўскай Рэспублікі.

# КОЛЬКІ ПРАТРЫМАЕЦЦА ГЭТЫ ЎРАД?

Зусім нядаўна ўраду было вынесена “высачайшае” і апошняе папярэджанне. Паўнамоцтвы Савета Міністраў увогуле абрэзалі. У тым, калі можа здарыцца яго адстаўка, разбіралася “Тут і цяпер”.




*У нас электарат усё ж не такі, але ўрад сапраўды крыху недапаможны*

**СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ, БЫЛЫ СТАРШЫНЯ ПРАЎЛЕННЯ НАЦЫЯНАЛЬГАА БАНКУ КРАІНЫ:**

## “КАЛІ Б ПРЭЗІДЭНТ АСЭНСАВАЎ СІТУАЦЫЮ, ТО ЁН БЫ САМ ПАДАЎ У АДСТАЎКУ”.

— Гэта залежыць ад самога Лукашэнкі. Гэты ўрад ён папярэджваў і ў 2012 годзе. Калі не будуць выкананы паказчыкі, то ім мала не падасца. І я, напэўна, адзіны, хто верыць нашаму прэзідэнту. Я тады ў інтэрв’ю сказаў, што Мясніковіч будзе адпраўлены ў адстаўку. Як высветлілася, мой адказ быў няправільны. Ён не стрымаў свайго слова, а зараз кажа, што праз год адправіць. Сёння так кажа, заўтра так. Падстаў, каб іх адправіць у адстаўку, больш чым дастаткова. Інфляцыя вялізная. Прамыя інвестыцыі не паступаюць у запланаваных аб’ёмах, і мадэрнізацыя правалена па ўсіх паказчыках. І валавы прадукт не вырас на запланаваную суму, і па энергаёмістасці не выканана заданне. Але яму, напэўна, няма кім замяніць гэтую каманду. Калі б прэзідэнт асэнсаваў сітуацыю, то ён бы сам падаў у адстаўку, таму што ўзначальвае ўсе гэтыя структуры.

**ЯРАСЛАЎ РАМАНЧУК, ЭКАНАМІСТ:**

## “ЛУКАШЭНКУ ВЕРНУЦЬ НА ЗЯМЛЮ ПУЦІН З НАЗАРБАЕВЫМ”.

— Гэта не мае ніякага значэння: Мясніковіч узначальвае ўрад ці нейкі намеснік райвыканкама. У цяперашняй сістэме ўлады хто б ні займаў гэтую пазіцыю, усё роўна праз год-два пойдзе ў адстаўку за невыкананне планаў. Бо тое, што загадвае рабіць Лукашэнка ў межах чацвёртай пяцігодкі, з’яўляецца ўтопіяй. І яе выкананне вельмі небяспечнае для нашай эканомікі. Я б на яго месцы не мяняў бы нікога, таму што ў гэтым сэнсе чым горш, ты лепш. Калі хтосьці з урада знойдзецца і скажа Лукашэнку пра нерэальнасць гэтых планаў, тады, можа, нехта яшчэ і адгукнецца, каб давесці, што трэба нешта мяняць у бок рынкавых рэформ. Але такім бізуном для Лукашэнкі, я думаю, будзе не дырэктарат, не міністры, а Назарбаеў і Пуцін, з якімі ён неўзабаве сустрэнецца (з Пуціным — у сакавіку, з Назарбаевым — у найбліжэйшыя тры месяцы).

**ВОЛЬГА СТАНКЕВІЧ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА:**

## “АД ЗМЕНЫ ЎРАДА НІЧОГА НЕ ЗМЕНІЦЦА”.

— Змена ўрада нічога не вырашыць, бо корань нашых бед хаваецца не ва ўрадзе. Я прачытала справаздачу міністра эканомікі. Някепскі аналіз, толькі высновы дрэнныя. Там паказана, што правал ідзе па глыбінных прычынах. А яны — гэта сама слабая сістэма матывацыі для кіруючага персаналу. У нас 75 працэнтаў валавога прадукту стварае дзяржсектар, але ён кіруецца адміністратыўна, а не так, як кіруецца дзяржсектар, напрыклад, у Францыі. Дырэкцыя не адказвае перад уласнікам, перад дзяржавай за атрыманне дывідэндаў. Па нейкіх прыватных пазіцыях нясе адказнасць. Трэба, каб было пагадненне паміж урадам і камітэтам па маёмасці, што яны забяспечаць дывідэнды ўласніку, дзяржаве. Ну, і дзейнічай як хочаш — канкурыруй з прыватным сектарам, з прадпрыемствамі любой формы ўласнасці. Але такога ж няма. Аднаму даюць ільготы па падатках, другому — ільготы па крэдытах і гэтак далей. Гэта не канкурэнцыя. Таму ўсё залежыць ад мадэлі кіравання. Нават не ад прыватызацыі.

**АЛЯКСАНДР КЛАСКОЎСКІ, АНАЛІТЫК:**

## “ГЭТА ЗАЛЕЖЫЦЬ АД КАПРЫЗУ ГАЛОЎНАГА РЭЖЫСЁРА”.

— Адказ на гэтае пытанне ёсць гаданнем на кававай гушчы, таму што кадравая палітыка беларускага кіраўніка, а менавіта ён аднаасобна ўсё вырашае, не паддаецца логіцы. Гэта залежыць ад яго настрою. Адстаўка можа адбыцца як праз тры дні, так і праз год, напрыклад. Я думаю, што ў любым выпадку ўрад у нашай сітуацыі — проста пешка. Ён нічога не вырашае і перыядычна служыць маланкаадводам (як на апошнім пасяджэнні Савета Міністраў). Чарговы акт спектакля пра добрага цара і кепскіх баяр, якія ўсё псуюць. Ну, апошніх будуць перыядычна мяняць. Гэта, паўтаруся, залежыць ад капрызу рэжысёра. Ніякай логікі тут няма.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**АФІЦЫЙНА**

## СТАРЫЯ ПЕСНІ НА НОВЫ КАПЫЛ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка папярэдзіў урад, што паўтарэнне вынікаў развіцця эканомікі 2012 года будзе азначаць для ўрада неадкладную адстаўку. Аб гэтым кіраўнік дзяржавы заявіў 1 сакавіка, выступаючы на пасяджэнні Савета Міністраў, прысвечаным вынікам сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны за 2012 год і задачам на 2013 год, перадае карэспандэнт БелТА.

«Сітуацыя, што склалася ў нас у мінулым годзе, катэгарычна недапушчальная сёлета! — падкрэсліў прэзідэнт. — Паўтарэнне мінулага года будзе азначаць неадкладную адстаўку ўрада!».

У той жа час Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што сітуацыя ў краіне не такая ўжо і дрэнная, бо ўдалося замацаваць пазітыўныя тэндэнцыі ў шэрагу сфер. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ў 2013 годзе, вырашальным для пяцігодкі, «важна вызначыцца і, вызначыўшыся, працаваць так, каб праз 2—2,5 года, калі мы збяромся перад усім народам на Усебеларускі народны сход, было б не так сорамна».

# ЦІ З'ЯВІЦЦА Ў МІНСКУ ТУПІК ІМЯ ЧАВЕСА

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

## ПЭЎНА, ФАРМАЛЬНАСЦЬ

Абвешчана, што Беларусь далучылася да жалобных мерапрыемстваў. Аднак гэта выглядае глупствам, бо абсалютная большасць нашых грамадзян абыякавая да Уга Чавеса, тым больш напярэдадні 8 Сакавіка. Цяжка ўявіць, каб беларусы замест традыцыйных святкаванняў раптам абрынуліся ў сум і тугу па прычыне таго, што памёр прэзідэнт Венесуэлы.

Таму жалоба ў Беларусі застанецца фармальнасцю: прыспушчаны дзяржаўныя сцягі і перагледжана праграма тэлеканалаў. Але нават гэтым Лукашэнка чарговы раз засведчыў свае прыярытэты. Калі памёр Васіль Быкаў, жалоба наогул не абвяшчалася. Калі здарыўся тэракт у мінскім метро, яна доўжылася адзін дзень. А цяпер — ажно тры!

Да таго ж беларускія ўлады збіраюцца перайменаваць адну з цэнтральных вуліц у Мінску, надаўшы ёй імя Чавеса. Але было б куды мэтазгодней знайсці для гэтай мэты тупік, бо насамрэч краіна, якой Чавес кіраваў амаль 15 год, маючы вялізныя нафтавыя рэсурсы, з'яўляецца адной з самых бедных у рэгіёне. А злачыннасць у Венесуэле такая, што нават у сталіцы іншаземцам не раюць выходзіць на вуліцы без аховы.

Прыклад Чавеса сведчыць пра тое, што аўтарытарная ўлада не здольна вырашыць праблемы дзяржавы і грамадства. Гэта галоўны ўрок, які варта засвоіць і венесуэльцам, і беларусам.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# УСЕ НАДЗЕІ НА ...МАЛЫ БІЗНЕС

## Да канца 2015 года доля малога і сярэдняга бізнесу ў ВУП Беларусі павінна вырасці да 30%, а колькасць занятых у гэтым сектары эканомікі — скласці не менш як 1,8 чалавека.

Наколькі рэальна выканаць запланаванае , "Тут і цяпер" пацікавілася **ў прадпрымальніка з больш чым 20-гадовым вопытам юрыста і эканаміста Сяргея Балыкіна**.

— Адметнасць нашай краіны ад цывілізаваных (больш правільна будзе сказаць "развважлівых) дзяржаў у тым, што ў іх план — гэта план і яны шукаюць сродкі для дасягнення пастаўленых мэт, а ў нас план — гэта закон, і хоць ты разарвіся, але дай справаздачу аб яго выкананні. Баюся, што ў нас атрымаецца «як заўсёды» (паводле вядомага выразу Чарнамырдзіна) і чыноўнікі проста пачнуць выбіваць з бізнесу паказчыкі, — лічыць эксперт. — Гэтае выбіванне адбываецца ўжо сёння: напрыклад, падаткавікі адчытваюць прадпрымальнікаў за тое, што ў іх выручка знізілася. А якая справа падаткавікам да маёй выручкі, калі ўсе падаткі я плачу своечасова?! Бізнесменаў выклікаюць на нарады ў выканкамы, тым ці іншым чынам "выкручваюць" ім рукі, даводзяць да іх нейкія паказчыкі. Таму, баюся, павелічэнне працэнтных паказчыкаў будзе адбывацца менавіта праз




*Пра падтрымку малога бізнесу больш гавораць*

такі метад. У нашых умовах з яго дапамогай можна давесці долю малога і сярэдняга бізнесу ў ВУП і да 50, і да 70%.

**— Што ж трэба зрабіць для павелічэння долі малога і сярэдняга бізнесу ў ВУП краіны?**

— Патрабуецца зусім няшмат: каб дзяржава перастала рэгуляваць эканоміку, уздзейнічаць на малы бізнес, выкарыстоўваючы "дысцыпліну бізуна". Але, на жаль, нягледзячы на ўсе размовы пра лібералізацыю эканомікі, дубінка, у шырокім сэнсе, застаецца галоўным сродкам кіравання. І нават добры намер у нашай краіне ператвараецца ў сваю супрацьлегласць. Я досыць крытычна стаўлюся да пастаўленых планаў і лічу, што іх трэба будаваць толькі тады, калі дзяржава адмовіцца ад дырэктыўна-казарменных метадаў «дыялога».

**— У існуючых умовах наколькі самі прадпрымальнікі зацікаўлены ў тым, каб доля малога бізнесу ў ВУП вырасла?**

— Колькі прадпрымальнікаў, столькі і сітуацый. Нехта і ў гэтых умовах паспрабуе дамовіцца і атрымаць пэўныя прэферэнцыі ці паслабленні, іншы, наадварот, набудзе праблемы. Натуральна, што бізнес наогул зацікаўлены ў павелічэнні сваёй долі на рынку, долі ў ВУП. З іншага боку, частка бізнесменаў досыць скептычна ставіцца (ад адкрытага сарказму да кукішу ў кішэні) да ўсяго, што зыходзіць ад дзяржавы. Прасцей кажучы, ужо даўно ніхто ні ўва што не верыць, тым больш у пафасныя лозунгі. Але скарыстацца сітуацыяй некаторыя могуць. Хаця, думаю, на карысць гэта не пойдзе нікому, у тым ліку самому ініцыятару.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

### ДА ВЕДАМА

**1 сакавіка ў Мінску адбылося пасяджэнне савета Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя», падчас якога ў фармаце круглага стала эксперты абмеркавалі тэму абароны правоў уласнасці і карпаратыўныя адносіны як умовы фарміравання спрыяльнага інстытуцыянальнага асяроддзя для развіцця эканомікі, што адпавядае палажэнням Дырэктывы № 4.**

Як падзяліўся з БелТА адзін з удзельнікаў пасяджэння, старшыня Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі (БНПА), член Савета па развіцці прадпрымальніцтва ў Беларусі Аляксандр Швец, для павелічэння долі малога і сярэдняга бізнесу ў ВУП Беларусі «патрэбны прарыўныя дзеянні».

### ДАРЭЧЫ

Павялічыць долю малога і сярэдняга бізнесу ў ВУП краіны да канца дзесяцігоддзя плануе і Казахстан для таго, каб увайсці ў трыццатку высокаразвітых краін. Праўда, гэтая доля ўжо сёння складае каля 30%. Павялічыць жа яе неабходна амаль у 2 разы.

У суседняй Расіі іншыя планы: там доля малога і сярэдняга прадпрымальніцтва ў ВУП краіны павінна скласці 50% да 2020 года, а ў малым бізнесе павінна быць занята не менш як палова расіян, якія працуюць.

А вось у краінах Еўрасаюза ўклад малых і сярэдніх прадпрыемстваў у ВУП складае каля 60%, пры занятасці ў іх 60–70% працоўнага насельніцтва.

# ПАВІНШАВАЦЬ З 8 САКАВІКА: З ШЫКАМ І АБСАЛЮТНА БЕЗ ЯГО

**Міжнародны жаночы дзень нездарма мае альтэрнатыўную назву — «Дзень кветкавага спекулянта». Напярэдадні і ў дзень свята кошты на кветкі і іншыя прыемныя дробязі для прыгожых дам вырастаюць у некалькі разоў.**

Хто з беларусаў зможа павіншаваць сваіх любімых жанчын з 8 Сакавіка сціпла, а хто — на шырокую нагу, падлічыла «Тут і цяпер». Дадзены матэрыял рыхтаваўся напярэдадні 8 сакавіка.

## «БАБЕ — КВЕТКІ, ДЗЕЦЯМ — МАРОЖАНАЕ»

Галоўны артыкул выдаткаў першага вясновага свята — кветкі. Сёння адна з найбуйнейшых у Мінску цяплічных гаспадарак КУП «Кветкі сталіцы» прадае ружы па цане ад 10,5 (30 см) да 25 (70 см) тысяч рублёў, цюльпаны — ад 12 тысяч рублёў за штуку. (Праўда, пералічаныя кошты сапраўдныя толькі для юрыдычных асоб.) Што ж тычыцца розніцы, то перасовачныя пункты прадпрыемства не могуць пахваліцца багаццем выбару, а ў крамах «бюджэтныя варыянты" вельмі хутка заканчваюцца. Прыватныя гаспадаркі просяць за ружы (пры аптовай закупцы, ад 100 штук) ад 25 да 30 тысяч за штуку, за цюльпаны — 8—10 тысяч, але апошніх ужо днём з агнём не знайсці. Гатовыя букеты і прыгожа аформленыя кветкавыя кошыкі ад прыватнікаў абыдуцца (паводле даных на 6 сакавіка) ад 250 тысяч да 2-3 мільёнаў рублёў! http://www.cvety.by/index.php?productID=98 Дарэчы, у інтэрнэт-вітрынах шматлікіх кветкавых крам можна ўбачыць красамоўную прыпіску: «Канчатковая цана прадукцыі вызначаецца ў дзень набыцця кветак», таму непасрэдна 8 сакавіка нават чэзлая галінка мімозы па цане можа быць супастаўная з самымі свежымі галандскімі ружамі ў «звычайны» дзень календара.

То бок падаражанне можа скласці 100 (!) адсоткаў.

У мінулым годзе, па назіраннях Onliner.by, адзначалася прыкладна такая ж карціна. «Усяго за тыдзень беларускія ружы ў сярэднім падаражэлі ў тых крамах, дзе мы пабывалі, з 15—20 тысяч рублёў да 30—35 тысяч, галандскія — з 35 да 40 тысяч, цюльпаны — з 9—10 да 15—20 тысяч рублёў. Хоць айчынныя вытворцы яшчэ на мінулым тыдні абяцалі зусім іншыя кошты».

А вось з чым, па запэўненнях клапатлівых гарадскіх улад, праблем не будзе, дык гэта з магчымасцю купіць кветкі. Упраўленне гандлю і паслуг Мінгарвыканкама дадаткова да стацыянарнай сеткі (243 аб'екта) арганізуе ў сталіцы 446 гандлёвых пунктаў: на рынках і ў гандлёвых цэнтрах, на адкрытых участках у месцах масавага знаходжання людзей, у пераходах станцый метро. «Павелічэнне колькасці гандлёвых пунктаў дасць магчымасць забяспечыць максімальна шырокі асартымент кветкавай прадукцыі на любы густ, а таксама стварыць канкурэнтнае асяроддзе, што паўплывае на цэнавае прапанаванне прадаўцоў», — аптымістычна заявілі ў мэрыі.

## КАМУ ХОПІЦЬ НА МІЛЬЁН ПУНСОВЫХ РУЖ?

Мы гарадскім уладам не тое каб не паверылі, але ж не кветкамі адзінымі адзначаць свята. А на паход у модны клуб або рэстаран пасля набыцця яркага букета шматлікім суграмадзянам грошай можа і не хапіць. У дапамогу мужчынам «Тут і цяпер» склала шпаргалку — які віншавальны набор у межах 5% ад заробку змогуць дазволіць сабе людзі з розным прыбыткам.




**ХТО: лекары, настаўнікі, работнікі сельскай гаспадаркі.**

**СЯРЭДНІ ЗАРОБАК (ПА ДАНЫХ БЕЛСТАТА ЗА СТУДЗЕНЬ 2013 ГОДА): 3—3,25 млн рублёў.**

Прыкладны падарункавы набор: букет з 3-х цюльпанаў або некалькіх галінак мімозы (ад 40 тысяч), шампанскае (ад 35 тысяч), скрынка цукерак (ад 30 тысяч) або торт сталічных хлебазаводаў (45-50 тысяч) = ад 100 тысяч рублёў. Бонусам можа паслужыць набор біжутэрыі або беларускай касметыкі агульным коштам да 50 тысяч рублёў. Але калі жанчын у сям'і і на працы шмат, выдаткі істотна ўзрастуць. А то можна шыкануць і купіць на ўсю зарплату 100—150 пунсовых руж — не мільён, вядома, але каханую таксама ўразіць (калі дарыльшчыка без зарплаты ў сэрцах з дому не згоніць).

**ХТО: будаўнікі, работнікі прамысловасці, транспарту і сувязі.**

**СЯРЭДНІ ЗАРОБАК: 4,8—5,2 млн рублёў.**

Прыкладны падарункавы набор: букет з 3-х руж або хрызантэм (ад 100 тысяч), віно малдаўскага ці беларускага разліву (ад 40 тысяч), вялікі торт або набор пірожных (ад 90 тысяч) = ад 230 тысяч рублёў. На астатнія 20 тысяч, па-добраму, не купіць нават глянцавы часопіс, хіба што некалькі прыгожых паштовак або сувенірны кубак. Або можна выбраць больш бюджэтныя кветкі і прысмакі і парадаваць каханую польскай або беларускай парфумай — 50—70 тысяч за флакончык туалетнай вады. Прыгожы жэст — выдаткаваць усю зарплату на 15 архідэй (блізкія жанчыны наўрад ці ацэняць).

**ХТО: прагramісты.**
**СЯРЭДНІ ЗАРОБАК: 10—12 млн рублёў.**

Прыкладны падарункавы набор: букет з 7 руж або архідэя (ад 250 тысяч), французскае віно (90-150 тысяч), заказны торт (ад 120 тысяч за кг, выраб ад 1,5 кг) = ад 430 тысяч рублёў. Бонусам можа стаць загадзя замоўленая каханай жанчынай дэкаратыўная касметыка: туш, памада і да т.п., аплачаны манікюр, педыкюр або масаж. Калі адмовіцца ад усіх падарункаў, акрамя кветак, то можна пасядзець удваіх у кафэ або рэстаране сярэдняй цэнавай катэгорыі — пры наяўнасці ў святочны дзень свабодных месцаў, зразумела. А на ўсю зарплату можна падарыць 350 руж або залаты пярсцёнак з дыяментамі, ці палёт на верталёце (ад 1,3 млн рублёў за 1 гадзіну) або паветраным шары (ад 4,5 млн за 4-5 гадзін), парачку сертыфікатаў у салон прыгажосці , і яшчэ на SPA-праграму для дваіх застанецца!

На жаль, падарыць, як у песні, «мільён, мільён, мільён пунсовых руж» не атрымаецца ні ў аднаго беларуса, бо для таго, каб купіць мільён нават самых танных беларускіх ружачак, давядзецца аддаць больш за 10 мільярдаў беларускіх рублёў…

## ДА СВЯТА ГАТОВЫ. ТЭАРЭТЫЧНА

Зрэшты, у рэальнасці запыты многіх беларускіх жанчын і планы мужчын значна больш сціплыя. «Тэарэтычна на падарункі — і калегам, і блізкім — я гатоў выдаткаваць месячны заробак, — разважае праграміст **Юрый Карнейчык**. — На практыцы атрымаецца, вядома ж, менш. А наогул я не лічу 8 сакавіка такой ужо афіцыйнай нагодай для таго, каб абавязкова дарыць падарункі. Гэта лепш рабіць без нагоды, проста так».

«У мяне на падарункі блізкім пойдзе каля 100 долараў, — прызнаецца супрацоўнік аднаго з найбуйнейшых беларускіх банкаў **Аляксей Маркевіч**. — Больш, па-мойму, проста глупства. Калег індывідуальна віншаваць не планую наогул».

«Жонцы куплю кветкі, а на працы прафсаюз выдасць цёткам па бутэльцы шампанскага. Ну і цешчы, магчыма, торт прынясём, калі ў госці пойдзем, а калі не збяромся — абыдзецца», — катэгарычны кіроўца аўтобуса **Яўген Сініца**.

Самае цікавае, што сума, якую чалавек гатоў аддаць на падарункі, далёка не заўсёды залежыць ад яго даходу. І ўсё ж асабліва ашчадным і аматарам «адпомсціць за 23 лютага» хочацца нагадаць, што дарагі не столькі падарунак, колькі ўвага, на якой ужо сапраўды эканоміць не варта. Ні 8 сакавіка, ні ў любы іншы дзень.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**




# «КАМУНАЛЬНАЯ» АБРАЗА

## Студзеньскія рахункі за камунальныя паслугі непрыемна ўразілі многіх беларусаў.

А тут яшчэ віцэ-прэм'ер Беларусі Анатоль Калінін «парадаваў»: урад падумвае ўвесці ў краіне адзіныя тарыфы на паслугі ЖКГ незалежна ад віду жылля — арэнднае ці ўласнае, кватэра ці прыватны дом. Гэта значыць, што нават самыя эканомныя суграмадзяне будуць плаціць больш, чым плацілі раней.

Апошняя навіна (а можа, дзіўная «жыроўка» за рэзідэнцыю ў Драздах?) абурыла нават Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку. На пасяджэнні Савета Міністраў 1 сакавіка, ацэньваючы вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны за 2012 год і задачы на 2013, прэзідэнт, як прынята казаць у афіцыйных крыніцах, «выступіў з рэзкай крытыкай урада».

— Мы ўвесь час, абражаючы насельніцтва, кажам, што яно не плаціць. Прайдзіце ад пачатку да канца, пралічыце, колькі будзе каштаваць кожная паслуга, — запатрабаваў Лукашэнка разабрацца ў тым, як адбываецца фарміраванне кошту жыллёва-камунальных паслуг. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы выказаў незадаволенасць работай Мінэнерга і даручыў дадаткова прааналізаваць пытанне кошту паслуг ЖКГ не каму-небудзь, а Камітэту дзяржкантролю.

## ІСЦІНА НЕДЗЕ ПОБАЧ

Праўда, у які бок належыць рухацца камунальнікам і энергетыкам у пошуках дакладнага рашэння, кіраўнік дзяржавы не ўдакладніў. Калі паглядзець на Усход, дык у Расіі, напрыклад, рэзкі (на 225%) рост камунальных плацяжоў (у Мурманскай вобласці) прывёў да найбуйнейшага скандалу, гучных крымінальных спраў на 1,5 мільярда расійскіх рублёў і адстаўкі некалькіх мясцовых міністраў. Рост тарыфаў расійскім камунальнікам загадана абмежаваць 6% у год. Калі ж перавесці позіркі на Захад, дзе камунальныя плацяжы, па словах нашых чыноўнікаў, складаюць да 20% прыбытку сярэднестатыстычнага еўрапейца, дык і сярэднестатыстычная зарплата нават у былых суседзяў па сацлагеры вышэйшая за аналагічны даход беларуса ў некалькі разоў! Гэта значыць, што пасля ўсіх абавязковых выплат грошай «на жыццё» застаецца несувымерна больш. Хто вінаваты і што рабіць — пытанні, як кажуць, рытарычныя.

— Я лічу, што «камуналка» для беларусаў пакуль што цярпімая, бо нафту і газ мы атрымліваем па цэнах, ніжэйшых за сусветныя, таму ацяпленне яшчэ не такое дарагое, якім магло б быць, — разважае эксперт «Тут і цяпер», старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі 13 склікання па эканамічнай палітыцы і рэформах, экс-прэзідэнт канцэрна «Амкадор» Васіль Шлындзікаў. — Нарада ва ўрадзе, праўда, наўрад ці нешта зменіць у гэтым пытанні, хіба што тарыфы будуць расці не так імклівa, як планавалася. Гэты год вытрымаем, яшчэ пару гадоў... А потым будуць праблемы. Безумоўна, плаціць трэба сто працэнтаў кошту паслуг ЖКГ, але вось хто будзе фарміраваць тарыфы, хто будзе кантраляваць кошты манаполіі — вялікае пытанне. Забяспечыць празрыстасць усіх разлікаў наўрад ці магчыма ў нашых сённяшніх умовах.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

### ДАРЭЧЫ

Што цікава, паўгода таму Аляксандр Лукашэнка даваў публічны наганяй ураду з той жа самай нагоды — высокія тарыфы ЖКГ. І нават уносіў наватарскую прапанову аб дыферэнцаванай аплаце паслуг галіны, у залежнасці ад даходаў насельніцтва. Маўляў, хай бы заможныя грамадзяне плацілі б больш — 120–150% рэальнага кошту камунальных паслуг, а тыя, з каго няма чаго ўзяць, — 25–30%. Ідэя, зрэшты, вельмі хутка была аспрэчана самім жа аўтарам, а камунальны воз, як бачым, трывала захрас у дрыгве недахопу грошай усімі коламі.

# З ПАДАТКАВІКАМІ ТРЭБА ТРЫМАЦЬ ВУХА ВОСТРА

**На днях ў офіс Беларускага Хельсінкскага камітэта прыйшлі супрацоўнікі Міністэрства па падатках і зборах. Яны ўручылі кіраўніку арганізацыі Алегу Гулаку пастанову аб арышце маёмасці. Праўда, офіс БХК падаткавікі пакінулі з пустымі рукамі — апісваць і адбіраць не было чаго.**




*Вазьмуць і яшчэ як*

*А некаторыя палітыкі па выніках праверак падатковай інспекцыі плацілі штрафы, таму што іх выдаткі істотна перавышалі прыбыткі.*

*Ці варта хваляваацца, атрымаўшы запрашэнне зайсці да падатковага інспектара?*

*Ці мае сэнс давяраць прадстаўніку падатковай інспекцыі як самому сабе?*

*І самае галоўнае: у падатковую ісці аднаму або адразу браць з сабой адваката?*

## ГАРЫ ПАГАНЯЙЛА: «ХАЛАДЗІЛЬНІК — І ТОЙ НЕ НАШ!»

БХК высвятляе адносіны з падатковай інспекцыяй ужо не першы год. Як раней паведамлялася ў СМІ, БХК павінен заплаціць у бюджэт звыш Br 284 мільёнаў падаткаў і штрафных санкцый па выкарыстаных у 2002— 2003 гадах грантах Еўракамісіі, якія, згодна з міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь, прадастаўляліся ў безнаяўным рэжыме. БХК абскардзіў гэтае рашэнне, і суды ўсіх інстанцый пастанавілі, што праваабаронцы нічога не павінны пакрываць у бюджэт. Аднак напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 года рашэнні гаспадарчых судоў былі перагледжаны Прэзідыумам Вышэйшага гаспадарчага суда...

Чаму гэтая гісторыя цягнецца так доўга?

«Таму што мы ўсё ж такі пісьменныя юрысты, — тлумачыць праваабаронца і сябра БХК Гары Паганяйла. — Дзяржава не спяшаецца спісаць нам даўгі, а мы не спяшаемся іх пагашаць. Мы спынілі ўсялякія грашовыя аперацыі на сваіх рахунках — іх проста няма. І ў гэтым вінавата дзяржава. У нас няма ні грантаў, якія можна было б правесці

**Ці варта пытацца парады ў падатковага інспектара, калі не ведаеш, як правільна зрабіць? Не параіць ён чаго дрэннага?**

па рахунках, мы не вядзём ніякай гаспадарчай дзейнасці, якая была б адлюстравана ў банкаўскіх або разліковых рахунках. Мы не набываем маёмасць, на якую можна было б накласці спагнанне. Уся мэбля, што знаходзіцца ў нас у офісе, арандавана ў АБСЕ. У нас заключаны дамовы з членамі БХК аб тым, што ў офісе яны працуюць на сваіх камп'ютарах, — на іх таксама нельга накласці спагнанне. Вось у нас у офісе стаіць халадзільнік, але і яго падаткавікам нельга забраць, бо ён належыць аднаму з нашых хлопцаў!».

Ці варта пытацца парады ў падатковага інспектара, калі не ведаеш, як правільна зрабіць? Не параіць ён чаго дрэннага?

«Як правіла, падаткавікі самі не імкнуцца тлумачыць, як можна пазбегнуць выплаты падаткаў, — гаворыць Гары Пятровіч. — Яны якраз зацікаўлены ў тым, каб усе даўгі былі пагашаны, таму што гэта паказчык ўзроўню і эфектыўнасці іх працы. Ад гэтага залежаць іх прэміяльныя, яны атрымліваюць за гэта званні і ордэны. Таму яны будуць шукаць вашу маёмасць або грашовыя сродкі, на якія можна накласці спагнанне. Таму мая парада — з падаткавікамі трэба трымаць вуха востра».

## АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА: «ПАЗЫЧЫЦЬ ГРОШЫ АПАЗІЦЫЯНЕРУ СЁННЯ МОЖА НЕ КОЖНЫ...»

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька лічыць, што калі б ён не быў палітыкам, то яго наўрад ці правяралі б у падатковай ўздоўж і поперак. А так — кожны рубель пад кантролем!

«Мяне праверылі адразу за 17 папярэдніх гадоў, — распавядае Анатоль Уладзіміравіч аб сваім нядаўнім візіце ў падатковую. — Правяралі ўсё: пералёты, тэлефонныя выдаткі, выдаткі на камуналку, усю маёмасць і транспартныя сродкі, якія на мяне зарэгістраваны. Супрацоўнікі падатковай правялі вялікую работу па кожным годзе».

Калі атрымліваецца так, што за нейкі канкрэтны год расход перавышае даход, то просяць прадставіць тлумачальную ці фінансавыя дакументы, якія пацвярджаюць паходжанне грошай.

«І даводзілася даваць тлумачэнні, шукаць дакументы, — пацвярджае Лябедзька. — У канчатковым выніку праз гэта прайшоў не толькі я, але і ўсе члены маёй сям'і. Мы атрымалі нейкія мінімальныя штрафы. І цяпер я чысты перад дзяржавай і ўсімі сілавымі і правяраючымі структурамі».

Не так даўно Лукашэнка ў чарговы раз перасцярог бізнесменаў ад фінансавання апазіцыі. Анатоль Лябедзька ў сваю чаргу дзякуе тым, хто выручыў яго грашыма.

«У мяне былі сітуацыі, калі патрабавалася фінансавая дапамога, — кажа Лябедзька. — Калі я прадаў аўтамабіль і купіў новы, мне прыйшлося займаць пэўныя сумы грошай. Усё гэта я рабіў афіцыйна, і людзі давалі пісьмовае пацвярджэнне таго, што далі мне пазыку. Потым іх таксама правяралі: выклікалі ў падатковую, дзе яны павінны былі пацвердзіць гэты факт і падаць даведкі аб сваім даходзе. Таму я вельмі ўдзячны гэтым людзям. Але я стараўся быць з імі максімальна сумленным і адразу папярэджваў, што можа ўзнікнуць такая сітуацыя. На шчасце, мне не адмовілі ў дапамозе і падтрымцы, таму што пазычыць грошы апазіцыянеру сёння можа да-

лёка не кожны…».

Якія парады можа даць Лябедзька тым, каго запрасілі ў падатковую, наконт таго, як сябе паводзіць?

«У падатковых працуюць нармальныя людзі, — кажа ён. — І там не глядзяць на цябе як на ворага. Людзі проста выконваюць сваю руцінную работу. Таму скажу так: калі вы не абрабавалі банк, не выкралі нешта ў суседа і нікога не згвалтавалі, то вам няма чаго баяцца.

Вядома, непрыемна, калі табе ўвесь час дыхаюць у патыліцу. Калі мяне правяралі, заадно правяралі і маіх бацькоў, якія, безумоўна, перажылі пэўны стрэс. Таму трэба падрыхтаваць родных і блізкіх, каб яны былі гатовы да гэтага. І калі вы з кімсьці ўступаеце ў фінансавыя адносіны, то трэба быць перад імі абсалютна сумленнымі — папярэджваць, што іх могуць запрасіць у падатковую, каб потым не аказалася, што вы неяк ускосна падставілі людзей».

**АЛЯКСЕЙ ЯНУКЕВІЧ:**
### "ГАЛОЎНАЕ — БЕЗ ПАНІКІ!"

Старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч** пазнаёміўся з падатковымі інспектарамі, калі першы раз балаціраваўся ў Палату прадстаўнікоў.

"Гэта быў 2004 год, і мне трэба было прадставіць дэкларацыю, — узгадвае Аляксей. — Я не памятаю зараз дакладна, за які тэрмін патрабавалася прадставіць справаздачу, але памятаю, што прыйшлося збіраць дакументы. Але я зрабіў усё гэта і забыўся. Мне тады выпісалі нейкі адносна невялікі штраф і ўсё".

Некаторыя спрабуюць у падатковай адстойваць свае правы, нават ісці на абавастрэнне сітуацыі. Аляксей Янукевіч не вітае такі шлях.

"Бо варыянтаў таго, як ухіліцца ці адмовіцца ад гэтай праверкі, я проста не ведаю, — гаворыць ён. — Насамрэч, трэба ісці, размаўляць, высвятляць і збіраць дакументы, якія сапраўды пацвярджаюць наяўнасць даходу".

Янукевіч гаворыць, што разлічваў не толькі на свой розум, але і раіўся з адвакатамі.

"І яны давалі мне вельмі каштоўныя парады наконт таго, што і як рабіць, бо я не




такі ўжо і вялікі знаўца гэтага пытання, — адзначае ён. — А яны могуць падказаць, як найлепшым чынам аформіць тую ці іншую паперу, каб потым не ўзнікла праблем; нагадаць, што трэба пакінуць копію гэтых паперак і сабе, каб потым не забыцца, што да чаго. Безумоўна, парады юрыстаў былі вельмі карысныя для мяне, таму я не раіў бы самому нешта рабіць без адпаведных кансультацый са спецыялістамі, бо можна сутыкнуцца з досыць вялікімі праблемамі.

Натуральна, візіт у падатковую заўсёды напружвае, гэта непрыемна, але, на мой погляд, гэта не тая сітуацыя, каб падымаць паніку".

**АЛЕГ ВОЛЧАК:**
### «ЗАВЯДУ ГРОСБУХ!»

Праваабаронца Алег Волчак у гэтыя дні якраз чакае канчатковых вынікаў праверкі з падатковай: яго правяраюць не за адзін, а адразу за 10 гадоў. Былы следчы гаворыць, што яму няма чаго хаваць.

«Катэджаў дарагіх у мяне няма, прадметаў мастацтва — таксама", — распавядае Алег.

Дарэчы, Алег Волчак толькі нядаўна даведаўся, што падатковыя органы, аказваецца, працуюць не толькі па замове спецслужбаў. Яны і самі могуць ініцыяваць праверку ў дачыненні да любога грамадзяніна краіны.

«І той, хто думае, што падатковая нічога не фіксуе, глыбока памыляецца, — папярэджвае Алег. — Калі сёння вас не выклікалі ў падатковую, то не значыць, што не зробяць гэта заўтра. Таму калі робіце на сваё імя дарагія пакупкі ці проста вашы выдаткі перавышаюць даходы, ведайце — гэтая інфармацыя ёсць і ў падатковых інспектараў. І тыя, хто будуе катэджы, рана ці позна павінны будуць сказаць, адкуль узялі грошы на будаўніцтва. І высокая пасада, думаю, не ўратуе.

Я паказаў усе свае даходы, у тым ліку і ад здымак у кіно. Распавёў, што ездзіў у Германію, прыганяў адтуль машыны на продаж. Але падатак з гэтага даходу мне плаціць не трэба, таму што ў год прадаваў па адной машыне. У найбліжэйшы час, я так разумею, мне павінны прадставіць матэрыялы праверкі і стане ўжо ясна, што да чаго «.

**МАРЫНА МІТ**

**КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ**

**Парады для тых, хто ідзе ў падатковую ўпершыню, у Алега Волчака простыя: «Захоўвайце чэкі, калі робіце буйныя пакупкі. Калі мяняеце працоўнае месца, то вазьміце ў свайго працадаўцы даведку аб даходах — на ўсялякі выпадак. Таму што, калі запросяць у падатковую, гэтая даведка спатрэбіцца. Калі вам дарылі грошы, то не паляпнуйцеся і зафіксуйце ўсе сумы і нават курс долара на той дзень, калі атрымалі грошы. Я наогул для сябе зрабіў выснову, што трэба заводзіць гросбух — спецыяльны сшытак, у якім фіксуюцца выдаткі і прыбыткі. Гэта ўжо дакладна не перашкодзіць!».**

# ЛАНСКАЯ НА «ЕЎРАБАЧАННІ» ПРАДСТАВІЦЬ СЭКАНДХЭНД?

**Уначы 4 сакавіка ў сусветную сетку быў выкладзены новы сінгл беларускай удзельніцы конкурсу «Еўрабачанне-2013» спявачкі Алены Ланской — песня «Solayoh».**

З цікаўнай прыпіскай — «версія Еўрабачання». Прэс-служба Белтэлерадыёкампаніі пацвердзіла, што гэта сапраўды песня для конкурсу, якую артыстка запісала ў лютым у знакамітай лонданскай студыі **AbbeyRoad**. Такім чынам, спраўдзіліся прагнозы, што папярэдняя кампазіцыя «RhytmofLove», з якой спявачка сенсацыйна перамагла на апошнім нацыянальным адборы, будзе заменена.

Што тут скажаш: замежныя выканаўцы перад «Еўрабачаннем» звычайна ўсяляк піярацца, але ў нашай "партызанскай" рэспубліцы, мабыць, зусім іншыя традыцыі. Ці ўсё тлумачыцца прасцей. На самай справе, «новая песня Алены» ніякая не новая: напісалі яе пад арыгінальнай назвай «Soleo» бельгійскі кампазітар **Маркам Пелінк** і брытанскі аўтар **Марцін Кінгешча** ў 2008 годзе. Больш за тое, актыўныя блогеры — прыхільнікі «Еўрабачання» знайшлі сляды таго, што аўтары выкладвалі сваю песню ў інтэрнэт значна раней, чым агаворана правіламі конкурсу. Так што прадстаўнікі Еўрапейскага вяшчальнага саюза — заснавальніка і арганізатара «Еўрабачання» — могуць і не дапусціць знойдзеную ў засеках еўрапейскіх аўтараў песню да конкурсу.

Праслухаць кампазіцыю і скласці ўласнае меркаванне аб яе арыгінальнасці і мастацкай каштоўнасці можна тут: http://www.youtube.com/watch?v=Szf_HOmW5p0.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

ТУТ
WWW.SVABODABY.NET

# ВІЛЕНСКІ МУЗЕЙ ЦАЦАК І... УСПАМІНАЎ

**Беларусам, што збіраюцца наведаць Вільню, звычайна раяць звярнуць увагу на мясціны, звязаныя з нашай гісторыяй. Я ж хачу пазнаёміць вас з месцам і людзьмі, якія не маюць дачынення да Беларусі.**



Індрэ Ёвайшайце-Блажавічэне і Повілас Блажавічус — маладыя бацькі, якія выхоўваюць сына і дачушку. Повілас — археолаг. Ён абараніў кандыдатскую дысертацыю, тэмай якой сталі старажытныя цацкі, знойдзеныя падчас раскопак у Літве.

Акрамя старажытных цацак, сям'я цікавілася і збірала калекцыю цацак больш-менш сучасных, з якімі гулялі ў дзяцінстве самі, а таксама тых, што засталіся ў спадчыну ад бацькоў і дзядоў. Цікавую ідэю з радасцю падтрымалі сябры і знаёмыя. Так сабралася немалая калекцыя, якую, пры магчымасці, выстаўлялі ў розных галерэях.

— Калі я бачыла рэакцыю людзей на калекцыю, то разумела, што справа наша вартая таго, каб яе працягваць, — расказвае Індрэ. — Вельмі цікава назіраць за дарослымі, якія прыгадваюць сваё дзяцінства, убачыўшы знаёмыя цацкі. «Ох, як жа я хацела такую ляльку!..» альбо «І ў мяне была такая машынка!», а далей — успаміны, успаміны... Як сказала адна жанчына, у нас музей цацак і ўспамінаў.

Так, цяпер у сям'і Блажавічусаў сапраўдны музей — «Музей цацак». Ён знаходзіцца ў самым цэнтры Вільні, пазіраючы вокнамі на гару Гедыміна, побач з якой падчас раскопак былі знойдзены некаторыя з экспанатаў музея. Дакладней, у ім знаходзяцца толькі копіі. Затое іх можна не толькі патрымаць у руках, але і гуляць з імі, пакуль не надакучыць. Напрыклад, у музеі цацак ёсць дакладная копія драўлянай круцёлкі 14 ст., якую знайшлі падчас раскопак віленскага Ніжняга замка. Ва ўсёй Еўропе знойдзена толькі адна такая круцёлка — і гэта ў нашай старадаўняй сталіцы.

Музей цацак адкрыўся напрыканцы 2012 года, хаця зарэгістраваны быў яшчэ два гады таму.

— Са сваёй ідэяй адкрыцця сапраўднага музея мы перажылі двух мэраў, — распавядае Індрэ, якая цяпер з'яўляецца дырэктарам музея цацак. — Прыходзілі да гарадскіх улад, расказвалі пра ідэю, прасілі дапамагчы адным — памяшканнем. Браць проста памяшканне ў арэнду для нас вельмі дорага, а мэрыя можа са сваіх фондаў прапанаваць памяшканне на выгадных умовах арэнды. Аднак усё было дарэмна.

Справа зрушылася з месца, калі мэрам Вільні ў чарговы раз абралі Артура Зуокаса. Ён, бацька чатырох дзяцей, ідэю музея цацак падтрымаў, і пачаўся падбор неабходнага памяшкання.

Тут, кажа дырэктар музея, зноў не абышлося без праблем.

— Неабходнае памяшканне падабраць было вельмі складана: адно не падыходзіць памерамі, другое знаходзіцца далёка ад цэнтра....

У рэшце рэшт, у Вільні, на рагу вуліц Барбары Радзівіл і Цяплічнай, «пасяліўся» музей цацак.

Праўда, да адкрыцця музея заставаўся яшчэ амаль год: заяву на арэнду памяшкання падпісалі напрыканцы лютага 2012 года, адкрыўся ж музей толькі ў снежні.

Увесь гэты час памяшканне рамантавалі, а пасля афармлялі. Гаспадары музея рабілі рамонт самі, з дапамогай сяброў, таму матэрыяльныя выдаткі атрымаліся адносна невялікімі. Складана было з іншым: памяшканне знаходзіцца ў Старым горадзе, дзе будынкі ахоўваюцца законам як гістарычная спадчына, і на любыя рамонтныя работы трэба атрымліваць дазвол. Менавіта з-за гэтай папяровай валакіты рамонт і зацягнуўся.

— Неяк у самым пачатку рамонту, калі малым яшчэ небяспечна было знаходзіцца ў памяшканні, я павяла дзяцей на гару Гедыміна, у музей, які месціцца ў вежы. Пакуль ускараскалася з імі наверх, вельмі стамілася. Заходзім у залу, а супрацоўніца мне кажа, каб я трымала дзяцей і не дазваляла ім нічога кранаць рукамі. Тады я вырашыла для сябе, што наведвальнікі нашага музея змогуць дакранацца да ўсяго, што ім будзе цікава, змогуць усё памацаць рукамі.

Так і зрабілі: ідэя «ўбач, даведайся, паспрабуй» стала асноўнай у канцэпцыі музея.

Зараз у музеі выстаўлена археалагічная экспазіцыя і экспазіцыя цацак 20 стагоддзя.

Індрэ Ёвайшайце-Блажавічэне ўпэўненая: калі ў вас ёсць цікавая ідэя і жаданне яе рэалізаваць — бярыцеся і рабіце, і ў вас усё атрымаецца. Ваш поспех залежыць толькі ад вас.

**ЛАРЫСА ШАПАВАЛАВА**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 7.03.13
Тыраж 299 экзэмпляраў